# НАРОДНАЯ ПРАГРАМА

www.prahrama.by



**Матэрыялы для кандыдатаў на выбарах**

**у мясцовыя Саветы 27-га склікання**

# Змест

# Паважаныя суайчыннікі!



*У Беларусі 23 сакавіка 2014 году адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы. Перад тым, як браць у іх удзел, калі ласка, задумайцеся, за што Вы гатовы аддаць свой голас.*

*Падзенне заробкаў, рост коштаў, абясцэньванне нацыянальнай валюты, затаварванне складоў прадпрыемстваў, а да таго процьма дробных праблемаў у кожным рэгіёне ад дарожных ямаў да вымушанага пошуку працы за мяжой - гэта не проста крызіс, гэта прыгавор цяперашняй сацыяльна-эканамічнай мадэлі!*

*Патрэбны сур'ёзныя рэформы ў самых розных галінах, зразумелыя людзям, скіраваныя на падвышэнне ўзроўню жыцця.*

*Насуперак папулізму непрафесіяналаў, замест пустых лозунгаў і абяцанняў мы прапануем план рэальных дзеянняў для перамен - «Народную праграму».*

*Гэта брашура ўтрымлівае восем самых праблемных тэм, якія былі вызначаны паводле апытання тысяч жыхароў Беларусі.*

*«Народная праграма» ведае, што рабіць далей з горадаўтваральнымі прадпрыемствамі, як павысіць якасць жыллёва-камунальных паслуг, як эканоміць энергію і грошы ў жылых дамах, як рэфармаваць беларускую школу, як адрадзіць*

*вёску і забяспечыць права людзей на зямлю, як вызваліць патэнцыял прадпрымальнікаў, як абараніць інтарэсы людзей пры пабудове шкодных вытворчасцяў, як мець народную мясцовую ўладу.*

*Шаноўныя выбаршчыкі, галасуйце за тых кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў, якія ідуць ва ўладу з прапановамі пераменаў! Ад гэтага залежыць будучыня краіны і вашых дзяцей!*

*Заклікаем кандыдатаў выкарыстоўваць прапановы «Народнай праграмы» у сваіх перадвыбарчых праграмах і інфармацыйна-агітацыйных матэрыялах.*

***Каардынатар «Народнай праграмы»,***
***першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду»***
***Юрась Губарэвіч***

# Выбарнасць мэраў

Заканадаўства Беларусі вызначае статус мясцовага самакіравання (Савета) як "прадстаўнічы дзяржаўны орган". Выканаўчыя органы выведзены з сістэмы мясцовага самакіравання і перападпарадкаваны прэзідэнту. **Па сутнасці, дзейнічае не мясцовая ўлада, а прадстаўнікі дзяржаўнай улады на месцах.** Такім чынам кіраўнікі выканкамаў перадусім лаяльныя ў дачыненні да Лукашэнкі, а не мясцовых жыхароў. У ніводнай еўрапейскай краіне, апроч Беларусі, не знайсці падобных прыкладаў.

Ва ўмовах станаўлення беларускай незалежнасці мясцовае самакіраванне мусіць зрабіцца неабходным інстытутам для стабілізацыі усёй дзяржавы. Улада, якая знаходзіцца максімальна блізка да людзей, з'яўляецца найважнейшай умовай гарантый правоў і свабодаў грамадзян.

## Для станаўлення мясцовага самакіравання неабходна прыняць пакет рашэнняў:

- Змяніць статус мясцовага самакіравання, вывесці яго з сістэмы дзяржаўнай улады;
- Ажыццявіць пераход ад трохузроўневай сістэмы самакіравання (абласныя Саветы, раённыя і першасныя) да двухузроўневай (раённыя і сельскія Саветы);
- Правесці рэформу адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення, каб зрабіць сістэму мясцовага самакіравання больш кампактнай, эфектыўнай і залежнай ад мясцовага насельніцтва, менш затратнай;

- ♦ Пераразмеркаваць фінансы ад абласных бюджэтаў да бюджэтаў гарадскіх, раённых і сельскіх. Улада і грошы мусяць быць у тых, хто бліжэй да праблем грамадзян;
- ♦ Увесці прамыя выбары кіраўнікоў (мэраў) гарадоў і адміністрацый;
- ♦ Забяспечыць сумленнасць выбараў кіраўнікоў выканкамаў. Выбары мэраў будуць мець мала сэнсу, калі будуць праходзіць гэтак жа, як цяпер выбары дэпутатаў.

Палітыка дэцэнтралізацыі ўлады, стварэнне рэальнага самакіравання ў Рэспубліцы Беларусь - адна з самых складаных задач на парадку палітычнага календара дэмакратычных партый, якую трэба будзе вырашыць разам з грамадзянскай супольнасцю. Асаблівасцю дадзенай рэформы з'яўляецца тое, што яна закранае шырокія пласты кіраўнікоў, якія не бачаць у новай сістэме вялікіх перспектыў для сябе.

**Неабходна цвяроза глядзець на выклікі, якія ўтрымлівае рэформа мясцовага самакіравання. Напрыклад**, камунальная ўласнасць у Беларусі - гэта разнавіднасць дзяржаўнай уласнасці. Такая юрыдычная канструкцыя дазваляе ўраду выключыць любы аб'ект з камунальнай уласнасці і перадаць яго іншаму ўласніку. А гэта азначае, што самі па сабе выбары старшыні выканкама не даюць мясцовым уладам поўную фінансава-эканамічную самастойнасць.

Рэформы мусяць адбывацца паралельна з развіццём грамадзянскай супольнасці і медыйнай прасторы. Гэтыя інстытуты маюць быць супрацьвагай чыноўнікам, якія валодаюць вялікімі паўнамоцтвамі. **Адначасова ва ўладу мусяць прыйсці новыя людзі са свежымі ідэямі.** Гэтая каманда мусіць стаць заменай цяперашняй, якая дзейнічае паводле старых  прынцыпаў, мае стыль кіравання і сувязямі па формуле «ты мне - я табе».

## Думка народа

*Прэтэндаваць на тую ці іншую пасаду кіраўніка мясцовай выканаўчай улады можа толькі чалавек, які нарадзіўся ў дадзенай мясцовасці (горадзе/рэгіёне) або, у крайнім выпадку, які пражыў тут працяглы час, лічаць удзельнікі сацыялагічнага апытання, праведзенага ў межах «Народнай праграмы».*

*«Ён будзе хварэць за гэты горад».*

*Кандыдат, які нарадзіўся ў дадзенай мясцовасці, лепш ведае праблемы, асаблівасці, перавагі і складанасці дадзенай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. Акрамя таго, у такога кандыдата склалася пэўная рэпутацыя. Нават калі гэта не вельмі вядомы чалавек, інфармацыя пра яго хутка стане вядомай з прычыны шчыльных сувязяў рэгіянальных супольнасцяў. Гэта значыць, прыналежнасць кандыдата да мясцовай супольнасці, таксама дае выбаршчыку магчымасць рабіць свой выбар свядома.*

*Кіраўнік, які прызначаецца, не нясе адказнасці перад насельніцтвам. Кіраўнік, якога абіраюць, нясе адказнасць перад тымі, хто яго выбраў і павінен даваць справаздачу за праведзеную працу. Акрамя таго, абраны кіраўнік зацікаўлены ў тым, што б якасна выконваць абавязкі, на яго ўскладзеныя.*

# Рэструктурызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў

У Беларусі існуе звыш за 70 малых гарадоў з монафункцыянальнай вытворчасцю, з іх 50 - монагарады, населеныя пункты, дзе адно прадпрыемства забяспечвае працай не меней за 25% эканамічна актыўных беларусаў. Горадаўтваральнае прадпрыемства дае працу пераважнай частцы насельніцтва горада, фармуе гарадскі бюджэт, часта ўтрымлівае сацыяльную інфраструктуру горада.

Асабліва востра залежнасць паміж дзейнасцю горадаўтваральнага прадпрыемства і сацыяльна-эканамічным развіццём населенага пункта выяўляецца ў невялікіх мясцовасцях. Рынкі працы гэтых гарадоў замкнёныя і інерцыйныя. Эканамічныя праблемы ў іх хутка прыводзяць да росту сацыяльнай напружанасці.

Сёння большасць горадаўтваральных прадпрыемстваў знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці і з'яўляюцца стратнымі. **Гэтыя прадпрыемствы не плацяць людзям прыстойных заробкаў і існуюць за свой кошт, а дзякуючы атрыманню фінансавання з іншых крыніц.** Прамысловая палітыка ўладаў Беларусі на працягу апошніх дваццаці гадоў была з большага скіравана на кансервацыю сітуацыі ў монагарадах за кошт выдзялення льготных урадавых крэдытаў на падтрыманне вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры.

Сігналы рынку скажаліся пратэкцыянісцкай палітыкай, таму

нават спробы мадэрнізацыі вытворчасці звычайна зводзіліся толькі да куплі новага абсталявання або будаўніцтва новых вытворчых плошчаў без уліку попыту ці наогул магчымасці збыту прадукцыі. Як прыклад, мадэрнізаваныя дрэваапрацоўчыя ці цэментныя прадпрыемствы не прыносяць ні прыбытку дзяржаве, ні прыстойных заробкаў працаўнікам.

Пагаршэнне эканамічнага становішча Беларусі паглыбляе ранейшыя праблемы малых гарадоў, робячы горадаўтваральныя прадпрыемствы яшчэ менш устойлівымі. У той час як новыя эканамічныя магчымасці ў гэтых мясцовасцях не з'яўляюцца. **Каб палепшыць свой дабрабыт, жыхары гэтых гарадоў усё часцей з’язджаюць ў іншыя мясцовасці і краіны.** Такім чынам, крызісная сітуацыя з працаўладкаваннем у асобных выпадках выпраўляецца, але гэта адбываецца за кошт паглыблення крызісу інфраструктуры, зніжэння інвестыцыйнай прывабнасці, павелічэння долі сацыяльна маргінальных груп.

Праграмныя дакументы ўладаў заяўляюць аб неабходнасці рэструктурызацыі ў першую чаргу стратных горадаўтваральных прадпрыемстваў, але на самой справе палітыка дзяржавы арыентавана на кансервацыю існага стану спраў. Больш за тое, нядаўнія заявы Аляксандра Лукашэнкі ўскладаюць яшчэ больш адказнасці за дабрабыт монагарадоў на горадаўтваральныя прадпрыемствы. У перспектыве гэта прывядзе да вымывання абаротных сродкаў і пагаршэння эканамічнага становішча нават тых прадпрыемстваў, якія зараз з’яўляюцца адносна эканамічна паспяховымі.

Каб пазбегнуць спынення прадпрыемстваў і сапраўднай катастрофы для малых гарадоў, неабходна скансалідаваць высілкі мясцовых уладаў, ураду і ўсіх зацікаўленых бакоў для рэструктурызацыі гэтых прадпрыемстваў.

Адказам на выклік мы бачым сацыяльна адказную

рэструктурызацыю (САР) - распаўсюджаную ў замежжы практыку. Такая рэструктурызацыя ўлічвае інтарэсы ўласнікаў прадпрыемства, кіраўніцтва, працаўнікоў, мясцовых уладаў і грамадства. Асаблівая ўвага ў працэсе САР надаецца працаўнікам, якіх скарачаюць. З імі працуюць спецыялісты і ў дадатак да выходных выплатаў, якія кампенсуюць страту занятасці, іх перавучваюць, аказваюць дапамогу ў адкрыцці бізнес і пошуку лепшага месца на рынку працы.

**Ёсць некалькі чыннікаў, якія мы лічым важнымі для паспяховай рэструктурызацыі:**

- ♦ Своечасовае правядзенне якаснай інфармацыйнай кампаніі;
- ♦ Індывідуальны падыход да працаўнікоў;
- ♦ Выпрацоўка выразных крытэрыяў скарачэння персаналу;
- ♦ Правядзенне якаснай кадравай дыягностыкі;
- ♦ Стварэнне непасрэдна на прадпрыемстве цэнтру дапамогі працаўнікам, якіх звальняюць.

Кіраўніцтва прадпрыемстваў павінна падтрымліваць ініцыятывы дзяржаўных службаў занятасці і прафсаюзаў, накіраваныя на змякчэнне сацыяльных наступстваў, перавучванне і іншыя меры, што дазваляюць актывізаваць працоўныя рэсурсы. Прафсаюзы атрымаюць рэальныя магчымасці абараняць правы працаўнікоў на годныя выходныя выплаты, якія залежаць ад кваліфікацыі і стажу працы.

Лепшай практыкай дзейнасці службы занятасці мы лічым літоўскі і польскі досведы. Там супрацоўнікі гэтых ведамстваў актыўна

ўдзельнічаюць як у рашэнні праблем масавых скарачэнняў, так і ў аказанні індывідуальных паслуг звольненым працаўнікам. Негатыўныя працэсы скарачэння занятасці адбіваюцца найперш на лакальнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, таму мы лічым, што **менавіта мясцовыя ўлады павінны мець адпаведныя паўнамоцтвы і рэсурсы для правядзення САР.**

Рэструктурызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў – як правіла, працяглы працэс. Таму неабходна яе загадзя планаваць і арганічна інтэграваць у стратэгію рэгіянальнага развіцця. У аснову такіх стратэгій можа быць закладзеная мадэль рэіндустрыялізацыі з улікам развіцця функцыянальных сувязяў паміж рэгіянальнымі лідарамі росту і монагарадамі. Стратэгічная важнасць САР для такіх рэгіёнаў дазваляе рэкамендаваць яе планаванне пры распрацоўцы схем комплекснай тэрытарыяльнай арганізацыі (СКТА) абласцей Беларусі. Мы выступаем за тое, каб СКТА цесна ўвязваць з праграмамі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў і краіны ў цэлым.

Неабходна ўбудаванне дзейнасці службаў занятасці ў стратэгію развіцця рэгіёнаў. Служба занятасці будзе мець большае значэнне ў карэктаванні праграм навучання беспрацоўных, а таксама наладжванні партнёрскіх адносін з установамі сістэмы адукацыі.

Мясцовыя ўлады і профільныя міністэрствы павінны забяспечыць арганізацыйную і фінансавую падтрымку САР. На нашую думку, сродкі на рэструктурызацыю прадпрыемстваў павінен прадугледжваць дзяржаўны бюджэт. **Паступленні ад прыватызацыі дзяржаўных актываў таксама мусяць стаць фінансавай крыніцай рэструктурызацыі.** Інвестарам, якія зацікаўлены ў прыватызацыі горадаўтваральнага прадпрыемства, мы прапануем паніжэнне цаны актываў на суму выдаткаў, звязаных з САР і прадугледжаных у бізнес-плане.

Рэструктурызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў можа пацягнуць за сабой не толькі беспрацоўе, але і паніжэнне паступленняў падаткаў у бюджэт, змяншэнне мясцовага попыту і пагаршэнне якасці важных грамадскіх паслуг. Такім чынам, прыватызацыя горадаўтваральных прадпрыемстваў з'яўляецца рызыкоўным мерапрыемствам і можа мець поспех толькі пры празрыстым дзяржаўна-прыватным партнёрстве і апрабацыі інстытуту САР у краіне.

Развіццё інстытуту сацыяльна адказнай рэструктурызацыі павысіць эфектыўнасць занятасці ў Беларусі. Механізм САР не толькі служыць асновай прэвентыўных мер для прадухілення росту беспрацоўя і паніжэння ўзроўню дабрабыту насельніцтва, але і дазволіць вырашыць задачу мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў. Такім чынам, мы ператворым сённяшнія дзяржаўныя прадпрыемствы ў канкурэнтаздольны бізнес.

Рэструктурызацыя прадпрыемстваў мусіць адбывацца паралельна з іх мадэрнізацыяй і дыверсіфікацыяй крыніц устойлівага эканамічнага росту. Мы выступаем за публічны паўнавартасны аўдыт прадпрыемстваў для вызначэння магчымасцяў іх мадэрнізацыі. У сітуацыі скажэння рынкавых сігналаў і магчымай зацікаўленасці мясцовых уладаў у тых ці іншых выніках аўдыту, дадзены этап патрабуе прыцягнення высокакваліфікаваных незалежных экспертаў.

Рэформа – гэта не падарунак ад Дзеда Мароза, але выпрабаванне на шляху дасягнення дабрабыту. Толькі пэўная частка неабходных рэсурсаў можа быць атрымана ў выніку прыватызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў або стварэння новых прадпрыемстваў шляхам прыцягнення інвестыцый. Большасць выдаткаў мусіць узяць на сябе дзяржава, якая мае звярнуцца па дапамогу ў міжнародныя арганізацыі або да замежных крэдытораў.

Каб яшчэ больш змякчыць наступствы рэструктурызацыі, неабходна палепшыць умовы для развіцця малога і сярэдняга бізнесу ў невялічкіх гарадах. Нягледзячы на тое, што развіццё малога і сярэдняга бізнесу дэкларуюць ў якасці аднаго з кірункаў развіцця краіны, да гэтага часу дзеянні дзяржавы шмат у чым супярэчаць гэтым дэкларацыям.

## Малыя гарады не мусяць залежыць ад аднаго прадпрыемства, таму мы лічым неабходным:

♦ Стварэнне інстытутаў развіцця мясцовасці (бізнес-інкубатары, фонды падтрымкі, банкі развіцця);

♦ Развіццё транспартнай, камунальнай, камунікацыйнай і іншай інфраструктуры;

♦ Укладанні ў чалавечы капітал (навучанне, сацыяльная і адукацыйная інфраструктура).

Такім чынам, прапанаваныя намі змены дазволяць паўнавартасна выкарыстаць чалавечы патэнцыял краіны, паспяхова рэструктураваць прадпрыемствы, пераадолець «кансервацыю крызісу» і стварыць канкурэнтаздольную і ўстойлівую эканоміку.

## Думка народа

*Сярод станоўчых аспектаў прыватызацыі буйных горадаўтваральных прадпрыемстваў адмыслова апытаныя грамадзяне называлі пераважна наступныя:*

*- Прыцягненне інвестыцый;*

*- Мадэрнізацыя і ўкараненне новых тэхналогій вытворчасці, здольных зрабіць прадукцыю канкурэнтаздольнай;*

*- Прыватны ўласнік зацікаўлены ў эфектыўнай працы прадпрыемства;*

*- Павелічэнне заработнай платы работнікаў прадпрыемства;*

*- Вялікая зацікаўленасць работнікаў завода ў выпадку продажу ім пэўнай часткі акцый.*

***Сярод магчымых негатыўных перспектыў адзначылі:***

*- Прыход расійскіх алігархаў;*

*- Звальненне вялікай колькасці работнікаў прадпрыемства;*

*- Магчымасць таго, што прыход новага ўладальніка не зменіць ўмовы працы, у тым ліку фінансавыя;*

*- Непадсправаздачнасць новага кіраўніка перад работнікамі і дзяржавай (грамадствам);*

*- Неабароненасць таго, хто прыватызуе (магчымасць таго, што дзяржава «адбярэ» назад), у сувязі з хібамі ў заканадаўстве.*

# Павышэнне якасці жыллёва-камунальных паслуг

Каля 85% жыллёвага фонду краіны знаходзіцца ў прыватнай уласнасці. Практычна ўсе шматкватэрныя жылыя дамы маюць статус сумесных домаўладанняў (наяўнасць двух і больш уласнікаў) і знаходзяцца на балансах мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. 95,5% дамоў кіруюцца і абслугоўваюцца дзяржаўнымі жыллёва-камунальнымі арганізацыямі. Гэта велізарная дзяржаўная манаполія, якая акумулюе грошы прыватных уладальнікаў.

З-за неэфектыўнасці дзяржаўных кіраўнікоў і сэрвісных кампаній, вострымі застаюцца праблемы ўтрымання, рамонту і эксплуатацыі жылля і нежылых памяшканняў. Старая форма і сістэма кіравання жыллёвым фондам вычарпала свой рэсурс эфектыўнасці.

## Мы бачым тры галоўныя прычыны пагаршэння стану дамоў:

- Нізкая эфектыўнасць выкарыстання наяўных сродкаў;
- Адсутнасць кантролю з боку грамадзян за фінансамі жылых шматкватэрных дамоў;
- Недахоп сучаснага менеджменту кіравання дамамі, кваліфікаваных старшыняў Таварыстваў уласнікаў і Жыллёва-будаўнічых спажывецкіх кааператываў.

У выніку выдаткі на абслугоўванне дамоў растуць, паляпшэння якасці абслугоўвання не адбываецца, а жыхары адхіленыя ад кіравання домам. **Прапанаваныя намі паляпшэнні палягаюць на прынцыпы еўрапейскіх стандартаў.** Узаемадачыненні

пастаўшчыкоў і спажыўцоў камунальных паслуг у Еўрапейскім Саюзе і Беларусі цалкам адрозніваюцца. Тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі і іх рост у большасці еўрапейскіх краін знаходзяцца пад кантролем як дзяржавы, так і рынку.

Сэрвісныя кампаніі маюць аднолькавыя правы на агульнае карыстанне інфраструктурай разнастайных сетак. Пры тым, што ўладальнікам гэтых сетак на заканадаўчым узроўні забаронена займацца пастаўкамі газу, вады, цяпла, электраэнергіі, каб не ствараць манаполіі.

Калі спажыўца не задавальняе якасць і кошт паслуг, ён можа змяніць пастаўшчыка. У краінах Еўрапейскага Саюзу пры ўстаноўцы лічыльнікаў на газ і электрычнасць прадугледжана тэхнічная магчымасць для кожнага спажыўца па выбары таго або іншага пастаўшчыка. **Такі механізм узаемаадносін пастаўшчыкоў і спажывальнікаў забяспечвае канкурэнцыю, што ў сваю чаргу прыводзіць да паніжэння тарыфаў.**

З мэтай кантролю за тарыфамі на ваду, зборамі на абслугоўванне дамоў і прылеглых тэрыторый еўрапейскія дзяржавы кожны год прымаюць індэксы максімальных узроўняў цэнаў, якія не могуць быць перавышаны пастаўшчыкамі.

У агульным плане палітыка Еўрапейскага Саюзу ў сферы камунальных паслуг скіравана на жорсткі кантроль фінансавых аперацый фірм-пастаўшчыкоў, каб пазбегнуць усялякіх форм карупцыі і крадзяжоў. Любая арганізацыя, якая прэтэндуе на пастаўку камунальнай паслугі, абавязана прайсці поўны аўдыт, доступ да вынікаў якога мае любы спажывец.

**У беларускіх жа рэаліях проста адбываецца прыхаванае рабаўніцтва насельніцтва** - як праз выстаўленне коштаў у «жыроўках» на аплату камунальных паслуг, так і праз разнастайныя падаткі ў бюджэт. Менавіта з гэтых падаткаў ідуць фінансавыя сродкі на пакрыццё розніцы сабекошту паслуг, што ўлады Беларусі

яшчэ падаюць як «даброты» для народа. Пры тым, што ў сабекошт камунальных паслуг уключаецца і аграмадны карупцыйны складнік.

**Каб палепшыць якасць паслуг ЖКГ мы прапануем наступныя меры:**

- Ліквідаваць манапалізм у жыллёвай гаспадарцы шляхам падзелу функцый кіравання і абслугоўвання жыллёвага фонду, стварыць умовы па забеспячэнні канкурэнцыі паміж арганізацыямі;
- Рэфармаваць сістэму фінансавання бягучага і капітальнага рамонту жыллёвага фонду з залічэннем сродкаў па капітальным рамонце на асобныя рахункі з пачатку іх увядзення;
- Стварыць ўмовы па забеспячэнні грамадзянам краіны права выбару пастаўшчыкоў камунальных паслуг;
- Забяспечыць роўныя магчымасці для дзейнасці прадпрыемстваў розных форм уласнасці з мэтай стварэння канкурэнцыі ў сферы ЖКГ на заканадаўчым узроўні;
- Стварыць спрыяльныя ўмовы для дзейнасці аб'яднанняў грамадзян па месцы жыхарства, што паспрыяе празрыстасці выкарыстання сродкаў на абслугоўванне і рамонт жылога фонду;
- Распрацаваць і ажыццявіць праграму падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў з улікам сусветнага досведу з мэтай эфектыўнай эксплуатацыі аб’ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі;
- Падрыхтаваць праграму, скіраваную на правядзенне навукова-тэхнічнай і эканамічнай палітыкі ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Да яе рэалізацыі мы прапануем прыцягнуць навуковыя, навукова-даследчыя і акадэмічныя установы і арганізацыі;

♦ Распрацаваць план мерапрыемстваў па прыцягненні інвестыцый, накіраванні бюджэтных сродкаў, прыцягненні сродкаў прадпрыемстваў і насельніцтва ў камунальную гаспадарку з мэтай тэрміновага вырашэння праблемы «хрушчовак» і іншых аварыйных дамоў;

♦ Правесці скарачэнне шматлікага чынавенскага апарату з ліквідацыяй Міністэрства ЖКГ, разнастайных аддзелаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі пры абл-, гар-, райвыканкамах. Сэканомленыя сродкі выдаткаваць на мерапрыемствы, скіраваныя на падрыхтоўку і правядзенне рэформаў у сферы ЖКГ.

Таксама мы лічым, што напярэдадні рэформаў дзяржава павінна правесці шырокую інфармацыйную кампанію, каб патлумачыць беларусам, як яны выйграюць ад пераменаў і наколькі выгодна быць сапраўдным гаспадарам сваёй уласнасці.

## Думка народа

*Аказанне падобных паслуг прыватнымі кампаніямі павысіць ўзровень іх якасці. Пры няякасным абслугоўванні існуе магчымасць уплываць на структуру, якая аказвала паслугі. У выпадку дзяржаўных структур немагчыма знайсці адказную асобу.*

*«Ты ідзеш у гэты ЖЭС па кабінетах: з каго ж я хачу спытаць? Спытаць - то няма з каго, крайніх няма. Кругавая парука, ніхто не вінаваты, грошыкі сышлі».*

*Яшчэ адным выхадам з праблемы нізкага ўзроўню паслуг ЖКГ можа стаць кааперацыя жыхароў дома/пад'езда з мэтай самастойнага вырашэння дадзенага пытання. У любым выпадку, адзначалі рэспандэнты, павінен быць выбар, незалежна ад таго, будуць звяртацца жыхары да прыватных фірмаў, кааперавацца або плаціць за паслугі, якія аказваюцца дзяржаўнымі структурамі.*

# Вызваленне патэнцыялу прадпрымальнікаў

Колькасць прадпрымальнікаў у агульным складзе насельніцтва ніколі не бывае вялікай, бо гэтая дзейнасць вымагае пэўных здольнасцяў, навыкаў, ведаў і асаблівага складу асобы. Разам з тым прадпрымальнікі з’яўляюцца стваральнікамі працоўных месцаў, падаткаплацельшчыкамі і нефармальнымі лідарамі грамадскай думкі.

**Мы лічым умацаванне гэтай сацыяльнай групы надзейнай гарантыяй устойлівага гаспадарчага жыцця і дынамічнага ўдасканалення права.** Аднак, гэта магчыма толькі пры пэўных умовах. Неабходна стварыць эканамічны парадак, апірышчам якога маюць быць дакладна акрэсленыя і непарушныя маёмасныя правы асобы, як і правы юрыдычных асоб, аб'яднанняў любога дазволенага заканадаўствам тыпу.

У фармаванні прадпрымальніцтва вялікую ролю маюць свабода аб'яднанняў і іншыя формы сумеснай дзейнасці і партнёрстваў. Мы выступаем за ажыццяўленне комплексу дзяржаўных мерапрыемстваў па скарачэнні індывідуальных рызыкаў кожнага прадпрымальніка. Першым крокам мы бачым безумоўнае выкананне дамоваў, наступным - дзяржаўнае рэгуляванне ў сферы прамоцыі і абароны рынку.

Мы супраць празмернага ўмяшання дзяржавы ў правы распараджэння маёмаснымі комплексамі, немаёмаснымі правамі, працоўнымі рэсурсамі і прадстаўніцтвам ад імя прадпрымальнікаў.

Мы выступаем за тэрміновае вырашэнне першачарговага

праблемнага пытання для індывідуальных прадпрымальнікаў - абмежавання магчымасці прыцягваць наёмных працаўнікоў, якія не з'яўляюцца членамі іх сем'яў. Гэты бессэнсоўнае абмежаванне наносіць адчувальныя страты па прадпрымальніцкім сектары Беларусі.

Напрыклад, у Расіі ІП мае права прыцягнуць у якасці наёмнай працы да 15 чалавек без сваяцкіх сувязяў. У еўрапейскіх краінах аб'ём наёмнай працы не абмяжоўваецца. Як паказвае практыка, прадпрымальнік (уладальнік вытворчасці) мае магчымасць прыцягваць наёмную працу па-за колькаснымі абмежаваннямі без пераходу ў юрыдычную асобу. Адзіная прычына пераходу ў юрыдычную асобу - калі ўладальнік хоча размясціць свае акцыі на біржы.

**У выпадку дазволу індывідуальным прадпрымальнікам прыцягваць да сваёй дзейнасці наёмных працаўнікоў па-за сем'ямі будуць вырашаны наступныя пытанні:**

- ♦ Узровень рэальнага беспрацоўя знізіцца;
- ♦ У краіне ўзрасце патэнцыяльная магчымасць стварэння новых працоўных месцаў у выпадку ўзнікнення крытычнай сітуацыі на рынку працы ў перыяд прыватызацыі і рэструктурызацыі прадпрыемстваў, скарачэння неэфектыўных працоўных месцаў у дзяржаўных структурах;
- ♦ У ІП з'явіцца больш магчымасцяў па прасоўванні і экспарце беларускіх тавараў, што станоўча адаб'ецца на разгрузцы складоў прадпрыемстваў-вытворцаў;
- ♦ Будуць вырашаны праблемы, звязаныя з дзейнасцю прадпрымальнікаў-інвалідаў, работнікаў няпоўнай занятасці, студэнтаў, цяжарных жанчын, прадпрымальнікаў прызыўнога ўзросту і г. д.;
- ♦ З'явіцца магчымасць удзелу ІП у інавацыйных

праграмах ўраду і мясцовых органаў улады;

♦ Прадпрымальнікі атрымаюць магчымасць большай мабільнасці, развіцця кааперацыйных сувязяў паміж сабой і асваення новых напрамкаў дзейнасці;

♦ Часткова могуць быць пераадолены недахопы сезонных відаў дзейнасці і рэгіянальных абмежаванняў некаторых відаў вытворчасці тавараў і паслуг у невялікіх населеных пунктах і сельскай мясцовасці;

♦ Пашырыцца сацыяльна-эканамічная база для стварэння новых унітарных прадпрыемстваў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю;

♦ ІП атрымаюць магчымасць браць удзел у павышэнні ўласнай кваліфікацыі, у выкарыстанні паслуг, якія прадстаўляюцца аб'яднаннямі прадпрымальнікаў і суб'ектамі інфраструктуры падтрымкі малога прадпрымальніцтва.

Такім чынам, карэкцыя дзейснага заканадаўства і прыняцце дадатковых заканадаўчых актаў зробяць дзейнасць прадпрымальніка паважанай у грамадстве, прыцягне да яе частку здольнай моладзі і зробіць беларускае грамадства больш заможным.

## Думка народа

*Цалкам вызваліць пачатковы бізнес ад падаткаў, як гэта робіцца ў многіх еўрапейскіх краінах, на працяглы час, пакуль не ўсталюецца дастатковы ўзровень прыбытку.*

*Гэтак жа пры абмеркаванні пытання ў фокус-групе ўдзельнікі казалі, што значныя сумы прыпадаюць на неафіцыйныя адлічэнні featuring рознага роду кантрольным службам ў выглядзе штрафаў па дробных парушэннях. Некаторыя рэспандэнты казалі пра тое,*

*што даводзіцца наўмысна дапускаць дробныя неадпаведнасці/парушэнні, каб не прыпісалі больш сур'ёзнае парушэнне з больш высокім штрафам. То бок, «плаціць прыйдзецца ў любым выпадку». Колькасць праверак вялікая, і часта патрабаванні адных інстанцый супярэчаць патрабаванням іншых, у выніку немагчыма цалкам выканаць усе нормы, як бы гэтага не хацеў прадпрымальнік.*

*Не менш істотным з'яўляецца пытанне заканадаўства. Складанасць заключаецца ў частым яго змене, унутранай супярэчлівасці і неадназначным тлумачэнні. Рэспандэнты адзначалі, што складана займацца прадпрымальніцтвам, калі ўвесь час мяняюцца тыя ці іншыя нормы, уносяцца дадатковыя* папраўкі.

*«Калі б я хацеў быць бізнесменам сярэдняга класа, любога класа, я хацеў бы быць упэўненым у правілах гульні, што яны не будуць мяняцца».*

# Рэфармаванне беларускай школы

Паводле звестак Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, больш за траціну абітурыентаў, якія прынялі ўдзел у цэнтралізаваным тэставанні-2013, не змаглі пераадолець ніжні парог тэставага балу. Пра ўзровень падрыхтоўкі патэнцыяльных студэнтаў красамоўна сведчаць наступныя лічбы:

27.164 абітурыенты не дацягнулі да прахадных балаў на экзаменах па адным вучэбным прадмеце;

11.454 - па двух вучэбных прадметах;

2.064 - па трох вучэбных прадметах.

**Гэтыя негатыўныя вынікі з'яўляюцца следствам крызіснага стану школы, калі адсутнічаюць належныя заахвочванні для творчай працы настаўнікаў.** Пачынаючы з 1991 г. зарплата настаўніка не дасягала сярэдняй зарплаты ў краіне. Многія кампетэнтныя выкладчыкі вымушаны сыходзіць у больш прыбытковыя сферы, каб пракарміць свае сем’і. Разам з тым, вучні не маюць матывацыі атрымліваць веды, бо людзі з дыпломам аб вышэйшай адукацыі часта зарабляюць менш, чымсьці прадаўцы і будаўнікі.

Цяжкасці эканамічнага развіцця Беларусі з каманда-адміністрацыйнай эканомікай пры нязначнай долі прыватнай уласнасці паглыбляюць крызіс школы. Менавіта сыходзячы з эканамічнай сітуацыі было прынята рашэнне аб захаванні 11-гадовай сістэмы сярэдняй адукацыі, а таксама аб павелічэнні нагрузкі на настаўніка: стаўка роўная цяпер 20 гадзінам.

Значным мінусам і прычынай таго, што сённяшні стан беларускай школы не адпавядае сучасным крытэрыям, з’яўляецца **адмежаванасць беларускай сярэдняй адукацыі ад сучасных еўрапейскіх тэндэнцый.** Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, якая так і не далучылася да Балонскай канвецыі. Акрамя таго, Беларусь не бярэ ўдзелу ў аўтарытэтнай Міжнароднай праграме па ацэнцы адукацыйных дасягненняў вучняў (PISA).

Калі ў традыцыйным разуменні, чым больш ведаў, тым вышэйшая якасць адукацыі, то мы прапануем кампетэнтнасны падыход. Гэты падыход скіраваны на тое, каб выпускнікі мелі здольнасці «рабіць справу з веданнем справы».

Школы не выкарыстоўваюць кампетэнтнасны падыход у навучанні, калі прадметам ацэнкі, разам з ведамі, становяцца ўменні навучэнцаў. Пры гэтым, выніковасць адукацыйнага працэсу забяспечваецца найперш дзейнасцю саміх навучэнцаў. Таму роля настаўніка павінна заключацца ў кіраванні гэтай дзейнасцю, забеспячэнні цэласнасці навучальнага працэсу, каб у ім былі ўсе паўнавартасныя этапы: пастаноўка мэты, планаванне, дзеянні, самакантроль з самаацэнкай.

Ключавыя кампетэнцыі, паводле азначэння дадзенага ў Рэкамендацыях Еўрапейскага парламенту і Рады Еўропы, – гэта сістэма ведаў, уменняў і каштоўнаснага стаўлення, патрэбная для жыцця ў сучасным грамадстве. Да гэтай сістэмы дадаецца крытычнае мысленне, крэатыўнасць, уменне вырашаць праблемы, прымаць рашэнні і кіраваць сваімі эмоцыямі. Іх можна разглядаць як крытэрыі, якія вызначаюць якасць навучання.

Такім чынам, пра магчымыя шляхі выйсця з крызіснага стану, у якім апынулася беларуская адукацыя, можна гаварыць толькі пры той умове, калі беларуская школа пачне арыентавацца і ўводзіць сусветныя стандарты.

**У сувязі з гэтым мы прапануем наступныя напрамкі рэфармавання сярэдняй адукацыі:**

♦ Далучэнне да Балонскай канвенцыі і рэфармаванне школы ў адпаведнасці з сучаснымі еўрапейскімі адукацыйнымі стандартамі;

♦ Укараненне ў практыку навучання кампетэнтнаснага падыхода. Гэтаму спрыяе стратэгія актыўнай ацэнкі, якая аб'ядноўвае розныя актыўныя метады ў адзіную сістэму работы. Актыўная ацэнка сталася вельмі дзейсным метадам павышэння матывацыі і вучнёўскіх вынікаў, асабліва для тых, хто мае праблемы з вучобай;

♦ Стварыць прафсаюз работнікаў адукацыі, які будзе рэальна адстойваць і бараніць правы настаўнікаў, і вучыць іх уменням адстойваць свае правы;

♦ Спрыяць абменам школьнікаў з установамі адукацыі краіны вывучанай мовы, актыўнаму ўдзелу вучняў у міжнародных праектах, правядзенню ў школах і ў сістэме дадатковай адукацыі мерапрыемстваў на замежнай мове;

♦ Змяніць дзяржаўную праграму па той ці іншай школьнай дысцыпліне, якая не павінна ахопліваць увесь адведзены на гэтую дысцыпліну час, пакідаючы частку гэтага часу на ініцыятыву настаўніка;

♦ Стварыць дзейсную сістэму органаў школьнага самакіравання;

♦ Усе віды навучальных дапаможнікаў, якія выкарыстоўваюцца ва ўстановах сярэдняй адукацыі, павінны мець беларускамоўную версію. Акрамя таго, неабходна стварыць рынак школьных падручнікаў. Кожны настаўнік павінен мець

магчымасць выбіраць неабходны яму вучэбны дапаможнік як мінімум з двух альтэрнатыўных варыянтаў;

♦ Стварыць метадычную раду з уключэннем туды прадстаўнікоў педагагічнай і бацькоўскай грамадскасці, профільных грамадскіх арганізацыяў (Таварыства беларускай школы, Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, Таварыства беларускай мовы), якая будзе цесна ўзаемадзейнічаць з Міністэрствам адукацыі ў галіне развіцця беларускай школы;

♦ Стварэнне сеткі беларускамоўных навучальных установаў, каб колькасць вучняў, якія навучаюцца па-беларуску, дасягнула як мінімум 50%. Вельмі важна, каб падобны баланс захоўваўся ў гарадах абласнога і раённага падпарадкавання.

Краевугольным каменем паляпшэння сітуацыі ў школьнай адукацыі з'яўляецца роля настаўніка - яго паспяховасць у жыцці, якая грунтуецца на матэрыяльным дабрабыце і аўтарытэце ў грамадстве. Таму мы лічым неабходным павелічэнне стаўкі заробку настаўніка першапачаткова да сярэдняй зарплаты па краіне, а потым на 20% вышэй.

## Гэтаксама мы выступаем за наступныя меры:

♦ Стварэнне прафесійных супольнасцяў па прадметах і правядзенне дыскусій аб рэформе адукацыі;

♦ Скасаванне кароткатэрміновых кантрактаў у краіне, у тым ліку і ў школе, і развіццё грантавай сістэмы;

♦ Памяншэнне нагрузкі на настаўніка - не больш за пяць урокаў у дзень пры стаўцы ў 18 гадзін;

♦ Тэставанне настаўнікаў на веданне дзяржаўных моў і адной замежнай;

♦ Прымяненне сучасных інфармацыйных тэхналогій у

працы настаўніка і школ;

♦ Стварэнне сістэмы конкурснага прызначэння дырэктараў школ;

♦ Стымуляванне працы настаўнікаў на роднай мове і правядзенне нацыянальных конкурсаў настаўнікаў - прадметнікаў «З павагай да роднага слова»;

♦ Пераацэнка навучальных праграм і стварэнне новых. Новыя праграмы павінны быць накіраваны не толькі на адаптацыю моладзі ў грамадстве, але і на фармаванне крэатыўна-актыўнай асобы;

♦ Пераход на 12-гадовую школьную сістэму з профільнай адукацыяй на трэцяй ступені сярэдняй адукацыі (10-12 класы);

♦ Развіццё сеткі прыватных школ, якія маюць частковае бюджэтнае фінансаванне;

♦ Аптымізацыя сеткі школ у сельскай мясцовасці і гарадах дзеля таго, каб напаўненне класаў было не больш за 20 вучняў;

♦ Прадстаўленне фізічным і юрыдычным асобам права прызначэння 1% сваіх падаткаў на развіццё адукацыі, культуры ці трэцяга сектару.

Ва ўмовах адносна нізкіх бюджэтных датацый і адмежаванасці Міністэрства адукацыі ад агульнаеўрапейскіх тэндэнцый ключавымі актарамі ў рэфармаванні беларускай школы маюць стаць недзяржаўныя арганізацыі (НДА). Дзейнасць НДА магла б быць скіраваная на папулярызацыю найноўшых адукацыйных тэхналогій шляхам правядзення семінараў і майстар-класаў, а таксама курсаў дыстанцыйнага навучання для настаўнікаў.

**Выкананне пералічаных захадаў дазволіць** зрабіць сістэму сярэдняй адукацыі, адаптаванай да патрабаванняў сучаснасці. Гэта значыць, атрыманне выпускнікоў, гатовых эфектыўна

ўключыцца ў працу для сябе і Беларусі. Мы разняволім творчы патэнцыял настаўніка шляхам зняцця забаронаў і бюракратычнай «пятлі» ў паперапісальніцтве, ліквідуем функцыі, неўласцівыя педагагічнай дзейнасці.

## Думка народа

*Нематываванасць выкладчыкаў звязана з нізкай аплатай працы. Але нават у тых выпадках, калі настаўнік зацікаўлены і матываваны, ён абцяжараны вялікай колькасцю бюракратычных працэдур і непатрэбных абавязкаў. Прыходзіць вялікая колькасць маладых некампетэнтных выкладчыкаў, што звязана з непрэстыжнасцю дадзенай прафесіі і, як следства , нізкімі патрабаваннямі да тых, хто навучаецца на настаўніка.*

*«Неяк спрабуюць мадэрнізаваць школу, але вось гэтая мадэрнізацыя ідзе за кошт назапашвання нейкай папяровай бюракратыі, скажам так, і настаўнікам не цікава».*

*На думку ўдзельнікаў апытання, рэформу сістэмы сярэдняй адукацыі варта праводзіць з улікам меркавання і прапаноў выкладчыкаў, бо яны непасрэдна звязаны з дадзенай сістэмай і лепш ведаюць яе праблемныя аспекты. Акрамя таго, варта ўносіць змены ў сістэме адукацыі на аснове рэгулярнага маніторынгу і камунікацыі з выкладчыкамі.*

# Абарона інтарэсаў людзей пры будаўніцтве шкодных прадпрыемстваў

Сотні беларусаў выходзілі на вуліцы супраць будаўніцтва такіх прадпрыемстваў, як «Аўгуст-Бел» пад Мінскам ці «Франдэса» каля Бярозы. Яшчэ падчас будаўніцтва было вядома, што кампаніі, што займаюцца вытворчасцю пестыцыдаў, нанясуць вялікую шкоду навакольнаму асяроддзю. Аднак, нягледзячы на пратэсты людзей, гэтыя прадпрыемствы паўсталі.

Падпісаная нашай краінай Орхуская канвенцыя разглядае любых грамадзян або грамадскія арганізацыі, якія цікавяцца будаўніцтвам небяспечнага аб'екта, як паўнапраўнага ўдзельніка працэсу прыняцця экалагічных рашэнняў. **І дзяржава абавязана забяспечыць, каб голас людзей быў пачуты пры планаванні будаўніцтва аб'ектаў са шкоднай вытворчасцю.** Аднак неадпаведная імплементацыя (уключэнне ў нацыянальнае заканадаўства) Орхускай канвенцыі не гарантуе удзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў на стадыі, калі адкрытыя ўсе шляхі (у тым ліку адмова ад праекта).

Сёння асноўнай функцыяй публічных слуханняў з'яўляецца інфармаванне зацікаўленай грамадскасці аб выніках ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе. Рэальных механізмаў, якія могуць паўплываць на прыняццё тых ці іншых рашэнняў няма.

Самі праекты, якія праходзяць працэдуру грамадскіх слуханняў, а таксама экалагічную экспертызу, у далейшым у ходзе сваёй рэалізацыі часта патрабуюць зменаў і дапрацовак. Гэтыя змены

праходзяць ведамасныя ўзгадненні, але застаюцца невядомымі грамадству. Пры тым, што часта маштабы дапрацовак закранаюць інтарэсы людзей і могуць павялічваць негатыўны ўплыў на навакольнае асяроддзе.

Сённяшняе нацыянальнае заканадаўства прадугледжвае толькі грамадскія абмеркаванні справаздачы аб правядзенні ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе (справаздачы аб АУНА), то бок грамадскія абмеркаванні з'яўляюцца часткай працэдуры АУНА. Правядзенне ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе абавязковае толькі ў выпадках, прадугледжаных артыкулам 13 Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе». Аднак пералік такіх выпадкаў не ідэнтычны «орхускаму».

У некаторых момантах нацыянальны пералік шырэйшы за пералік Канвенцыі. Такая сітуацыя не з'яўляецца небяспечнай з пункту гледжання захавання правоў грамадскасці. Аднак у іншых выпадках пералік у нацыянальным заканадаўстве істотна вужэйшы за пералік Канвенцыі. Гэта прыводзіць да парушэння права людзей на ўдзел у **прыняцці рашэння пры пабудове шкодных прадпрыемстваў**, да невыканання Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў і да канфліктных сітуацый на практыцы.

Праекты па здабычы торфу з'яўляюцца тыповым прыкладам несупадзення спісаў. Згодна з нацыянальным заканадаўствам, АУНА па такіх аб'ектах абавязковая, калі пляцоўка торфараспрацоўкі складзе як мінімум 250 гектараў. Аднак Орхуская канвенцыя патрабуе забяспечыць удзел грамадскасці, калі пляцоўка торфараспрацоўкі сягне за 150 гектараў.

У такіх сітуацыях людзі могуць звярнуцца ў мясцовыя органы выканаўчай улады з просьбай правесці грамадскія абмеркаванні планаванага праекта, як таго патрабуе Орхуская канвенцыя. Зразумела, што гэта не можа быць прызнана прымальнай

сітуацыяй, калі выкананне краінай патрабаванняў канвенцыі залежыць ад ініцыятывы грамадскасці.

Зараз улады рыхтуюць унясенне змяненняў у артыкул 13 Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе», але праект пакуль не прадстаўлены. Прадэклараваная мэта змяненняў - «спрашчэнне адміністрацыйных працэдур» - дазваляе выказаць здагадку, што змены апынуцца на карысць эканамічных інтарэсаў і на шкоду інтарэсам экалагічным.

Іншыя праблемы і патэнцыяльныя канфлікты звязаны з парадкам правядзення публічных слуханняў. **У Беларусі адсутнічае скрынінгавае (папярэдняе) грамадскае абмеркаванне небяспечных праектаў.** Абмеркаванне справаздачы аб правядзенні ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе мусіць праводзіцца на стадыі, калі ініцыятарам праекта ўжо затрачаны значныя сродкі, а часам таксама падпісаны інвестыцыйныя дамовы.

Такім чынам, у справаздачы аб АУНА звычайна не разглядаецца «нулявы варыянт» (адмова ад ўзвядзення аб'екта), а прапановы людзей па змене істотных параметраў праекта варожа ўспрымаюцца ініцыятарамі. У выніку грамадскія абмеркаванні, замест забеспячэння ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэння, зводзяцца толькі да простага інфармавання грамадскасці.

Інфармаванне грамадскасці аб праекце арганізавана з яўным парушэннем правоў беларусаў. Згодна з сённяшнім заканадаўствам справаздача аб АУНА павінна быць змешчана ў інтэрнэце, толькі калі ў замоўшчыка АУНА маецца свой сайт. Ні выканаўца АУНА, ні мясцовы выканкам (у якога заўсёды ёсць сайт) размяшчаць справаздачу на сваім сайце не абавязаныя.

Сход для абмеркавання справаздачы аб АУНА праводзіцца толькі ў тым выпадку, калі цягам 10 працоўных дзён пасля

апублікавання паведамлення ў СМІ аб пачатку працэдуры публічных абмеркаванняў грамадскасць паспее падаць заяву аб неабходнасці правядзення сходу.

**Сённяшні стан рэчаў парушае правы беларусаў і нясе пагрозу для здароўя людзей.**

## Мы бачым некалькі магчымасцяў выпраўлення сітуацыі:

♦ Грамадскасць мусіць мець магчымасць удзельнічаць у прыняцці рашэнняў на этапе перадпраектных і праектных працаў. Павінен быць замацаваны абавязак абвяшчэння ў СМІ замоўшчыкам аб пачатку працэдуры экалагічнай экспертызы. Пры гэтым форма абвесткі павінна ўтрымліваць інфармацыю пра тое, якім чынам зацікаўленая грамадскасць можа атрымаць усю неабходную інфармацыю пра дадзены праект.

♦ Удзел у працы экспертных груп прадстаўнікоў грамадскасці на этапе правядзення экалагічнай экспертызы павінен быць забяспечаны на ўзроўні заканадаўства.

♦ Працэдура грамадскіх слуханняў павінна быць абавязковай для ўсіх катэгорый аб’ектаў, якія маюцца ў спісе, пазначаным у Законе “Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе” незалежна ад наяўнасці зваротаў зацікаўленай грамадскасці. Інфармацыя пра падобныя слуханні павінна быць апублікаванай загадзя (не пазней за два тыдні) на старонках дзяржаўнай прэсы альбо інтэрнет-рэсурсах адпаведных дзяржаўных органаў.

♦ Усе змены ў праекце, якія ўплываюць на тэхналагічныя параметры працы праектаванага прадпрыемства ці аб’екта, павінны быць лімітаваныя па катэгорыях – аб’ём вытворчасці, выкіды, сцёкі і г. д. У выпадку істотнага змянення дадзеных параметраў праект павінен накіроўвацца на паўторныя грамадскія слуханні.

♦ Прывядзенне спісаў відаў дзейнасці нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з Орхускай канвенцыяй.

**Нашыя прапановы не патрабуюць істотнага фінансавага ці арганізацыйнага ўнёску, а толькі жадання ўлічваць інтарэсы звычайных беларусаў.** Гэтыя меры рэалізуюцца шляхам заканадаўчай ініцыятывы і ўнясення прапановаў па дапрацоўцы адпаведных раздзелаў Закона «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе». Варта заўважыць, што гэтыя працэдуры патрабуюць дэталізацыі ў катэгорыях адказнасці за канкрэтныя крокі. Інакш можна будзе сутыкнуцца з паўторам сітуацыі, калі прагрэсіўнае па духу заканадаўства на практыцы рэалізуецца шляхам далёкім ад дасягнення пастаўленых мэтаў.

Такім чынам мы забяспечым істотнае паляпшэнне практыкі ўдзелу грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, больш глыбокую прапрацоўку прыродаахоўных мерапрыемстваў забудоўшчыкамі і павышэнне ўзроўню інфармаванасці грамадства ў прыняцці рашэнняў па экалагічна важных пытаннях.

## Думка народа

*Жыхары дадзенай мясцовасці могуць толькі выказваць сваё меркаванне, да якога варта прыслухоўвацца), але не мэтазгодна, каб яны прымалі канчатковае рашэнне па гэтым пытанні. Жыхары не з'яўляюцца экспертамі ў гэтай сферы і не маюць неабходных спецыялізаваных ведаў, на падставе якіх толькі і можна прымаць рашэнне. Гэта пытанне патрабуе высокага ўзроўню кампетэнцыі.*

*У выпадку ж будаўніцтва, схіляліся ўдзельнікі народнага апытання, варта прымаць рашэнне на аснове заключэння экспертаў, кампетэнтных у гэтай сферы навукоўцаў. У сувязі з гэтым узнікае два дадатковыя аспекты: да якіх экспертаў*

*звяртацца і хто далей будзе займацца будаўніцтвам.*

*«Я лічу абавязковым стварэнне незалежнай камісіі , прыцягненне эколагаў, спецыялістаў. Ну, і з нейкімі жорсткімі абавязацельствамі па нагоды ачысткі адходаў, выкідаў у атмасферу, ачышчальныя збудаванні нейкія...»*

# Эканомія энергіі і грошаў у жылых дамах

Цеплавая энергія займае каля 85% у камунальных выдатках хатніх гаспадарак ў шматкватэрных жылых дамах, а доля электраэнергіі - каля 15%. Пры тым, **95% жыллёвага фонду гарадоў Беларусі маюць удзельную нагрузку па ацяпленні ў тры разы вышэйшую, чым сучасныя жылыя дамы**.

Дзяржава заявіла, што з мэтай ліквідацыі перакрыжаванага субсідавання эканомікі ў 2014 годзе насельніцтва пачне аплачваць поўны кошт электраэнергіі, а ў 2015 годзе - поўны кошт цеплавой энергіі. Такім чынам, праблема пераходзіць у палітычную плоскасць - за цяпло жыхары адных шматкватэрных жылых дамоў будуць аплачваць у ацяпляльны перыяд на 200-300 тысяч рублёў больш, чымсьці жыхары такіх самых па плошчы кватэр у сучасных дамах. Тыя, хто будзе плаціць значна больш высокую плату, складаюць пераважную большасць.

Агучаная некалькі гадоў таму ідэя Мінгарвыканкаму ўвесці адзіныя нормы расходу цяпла для ўсіх шматкватэрных жылых дамоў ні да чаго, акрамя павелічэння спажывання цяпла і спісання ўсіх страт на спажыўцоў, не прывядзе. Болей за тое, сацыяльная праблема, якая мусіць з'явіцца ў перспектыве, прымусіць шукаць іншыя фінансавыя механізмы, акрамя бюджэтных асігнаванняў і сродкаў капітальнага рамонту.

Бюджэтныя асігнаванні дапамагаюць вырашыць частку праблемы, што тычыцца ўцяплення фасадаў. Пры гэтым, часта таўшчыня ўцяпляльніка недастатковая, не вырабляецца ўцяпленне сутарэнняў, гарышчаў, не адбываецца замена вокнаў на сучасныя

з нізкай цеплаправоднасцю, не ўсталёўваюцца індывідуальныя прыборы ўліку і рэгулявання цяпла, дамы не ставяцца на пакватэрны ўлік расходу цеплавой энергіі, не мантуюцца сістэмы прымусовай цыркуляцыі паветра. **У выніку, магчымы максімальны эфект эканоміі энергіі (да 90%) не настае, а замяняецца больш сціплым вынікам эфектыўнасці (30-40%).**

Адлічэнні на капітальны рамонт не павінны выкарыстоўвацца на мадэрнізацыю (энергаэфектыўную санацыю). Гэта вынікае з таго, што, згодна з Жыллёвым кодэксам Рэспублікі Беларусь, капітальны рамонт - гэта жыллёва-камунальная паслуга па аднаўленні асноўных фізіка-тэхнічных, эстэтычных і спажывецкіх якасцяў жылога дома.

Зацікаўленасць асноўнага ўласніка жылога фонду у фінансаванні работ па зніжэнні цепласпажывання абмяжоўваецца уцяпленнем фасада ў праекцыі сваёй кватэры. Таму некаторыя дамы старой забудовы і пачынаюць нагадваць лапікавыя коўдры. Пры гэтым уласнікі кватэр вырашаюць толькі адну праблему - утульнасць пражывання, бо на спажыванне цяпла ў разрэзе ўсяго шматкватэрнага жылога дому яны паўплываць не могуць і плацяць па агульнадамавых прыборах уліку.

На частку фактараў паўплываць немагчыма, толькі калі мы не будуем дом з нуля. Гэта - тып будынка, кліматычныя ўмовы, якія ўсталяваліся ў месцы размяшчэння дома, велічыня вонкавай тэмпературы, размяшчэнне будынка адносна бакоў свету і ружы вятроў. Змена часткі фактараў патрабуе складаных канструктыўных рашэнняў. Аднак, **мы бачым шмат чыннікаў, палепшыць паказчыкі якіх можна на ўзроўні бягучых работ**, што праводзяцца эксплуатуючай арганізацыяй, а таксама пісьменным карыстаннем сваёй кватэрай, бытавымі прыборамі і абсталяваннем, якія ў ёй знаходзяцца.

На энергаспажыванне будынка ўплывае матэрыял пабудовы будынка і яго таўшчыня. Усе памяшканні, якія ацяпляюцца зімой,

мусяць быць цеплаізаліраваны для прадухілення цеплавых страт. Чым меншая цеплаправоднасць будаўнічага матэрыялу, тым менш неабходна яго таўшчыні для забеспячэння неабходнай якасці цеплаізаляцыі. Напрыклад, цеплаізаляцыя 1 см мінеральнай ваты роўная цеплаізаляцыі 66 см армаванага бетону.

На наступным месцы па велічыні цеплавых страт пасля сцен знаходзяцца вокны. Тут дзейнічае тое ж правіла: для таго, каб паменшыць цеплástраты, шкленне мусіць мець як мага больш нізкі каэфіцыент цеплаперадачы.

Немалаважная планіроўка будынка, наяўнасць або адсутнасць такіх інжынерных рашэнняў як ліфт, сістэмы дымавыдалення, дадатковыя лесвічныя клеткі. Адной з найбольш істотных прычын цеплástрат жылога будынка з'яўляецца прысутнасць у ім смеццеправода. Вялікі ўплыў на энергазберажэнне будынка аказваюць тып вентыляцыі, канструктыўныя асаблівасці фасадаў, даху, гарышча і сутарэнняў.

**Вялікая роля ў эканоміі энергарэсурсаў шматкватэрнага жылога дома належыць прафесіяналізму эксплуатуючай арганізацыі.** Сёння ў большасці шматкватэрных жылых дамоў Беларусі пераважае цэнтральная сістэма рэгулявання і ўліку спажывання цеплавой энергіі. Таму вельмі важная правільная наладка і маніторынг устаноўленага ў цеплавым пункце абсталявання, што можа сэканоміць 20-25% спажывання цяпла.

Утрыманне эксплуатуючай арганізацыяй у спраўным стане тэхнічных памяшканняў, вокнаў, дзвярэй, добры тэхнічны стан інжынерных сістэм будынка і іх своечасовы рамонт, правільная наладка агульнадамавага, рэгулюючага спажыванне энергіі, абсталявання могуць істотна заашчадзіць спажыванне энергіі.

Калі мы кантралюем расход энергарэсурсаў у сваёй кватэры, мы ўносім свой уклад у эканомію для свайго шматкватэрнага жылога дома. Эканомячы цяпло ў кватэры шляхам правільнага

праветрання ці ўстаноўкай аптымальнага рэжыму тэмпературы радыятараў тэрмастата, жыхар не можа непасрэдна бачыць вынікі сваіх дзеянняў на лічыльніку цяпла. Усе вынікі адлюстроўваюцца на агульным прыборы ўліку, размешчаным у цеплавым пункце будынка. Вопыт Беларусі даказвае, што пераход на пакватэрны ўлік цяпла пры ўстаноўцы прыбораў рэгулявання дае ў некаторых выпадках **60% эканоміі**, нават без ўцяплення фасадаў.

## Мы прапануем наступныя меры для змяншэння спажывання энергіі ў жылым фондзе Беларусі:

- Пераход на поўную аплату кошту энергарэсурсаў пры ўзмацненні адраснай сацыяльнай дапамогі малазабяспечаным слаям насельніцтва;
- Ліквідацыя недахопу інфармаванасці ўласнікаў кватэр аб неабходных (рэкамендаваных экспертамі пасля абследавання) аб'ёмах работ па санацыі шматкватэрных жылых дамоў, магчымасці фінансавання гэтых працаў, іх эфектыўнасці ў бліжэйшай і аддаленай перспектыве (брашуры для уласнікаў кватэр, тэлеперадачы, інфармацыя на інтэрнэт-парталах);
- Стварэнне ўмоў для дзейнасці прафесійных (не манапалізаваных незалежна ад формы ўласнасці) эксплуатуючых арганізацый, якія дзейнічаюць на прынцыпах адзіных стандартаў пры наяўнасці камерцыйнай канкурэнцыі.

**Найважнейшымі крокамі для ліквідацыі праблемы мы лічым правядзенне энергазберагальных санацый за кошт замежных крэдытаў і выкарыстання еўрапейскага досведу.** У 2009-2011 гадах у рамках праекта Urb.Energy краіны Еўрасаюзу перадалі Рэспубліцы Беларусь свае ноў-хаў у галіне зніжэння энергаспажывання ў жыллёвай сферы. Гэтыя тэхналогіі дазваляюць у 2-3 разы знізіць энергаспажыванне жылых дамоў.

Энергазберагальная санацыя - гэта комплекс работ, якія праводзяцца з мэтай дасягнення энергазберагальнага эфекту без адсялення жыхароў. Гэта не толькі зніжэнне згубы цяпла праз вокны, дзверы, сцены, падвалы і дахі, але і перараздзлік, і ўзмацненне вентыляцыі, усталяванне на ёй цеплаабменнікаў, замена інжынерных сетак, увядзенне пакватэрнага ўліку цяпла, электроннага рэгулявання нагрэву радыятараў ацяплення, выкарыстанне альтэрнатыўных крыніц энергіі, паляпшэнне камфорту.

У той самы час частка такіх праектаў у агульным аб'ёме жылога фонду мінімальная, і перспектывы павелічэння долі такіх праектаў няпэўныя.

## Што замінае:

♦ Недастаткова задзейнічаны сродкі жыхароў, якія пражываюць у гэтых дамах, а таксама сродкі як унутраных, так і міжнародных фондаў і банкаў.

♦ Крэдытныя рэсурсы, наяўныя на ўнутраным банкаўскім рынку, вылучаюцца пад 20-70% гадавых, што непрымальна для мэтаў фінансавання доўгатэрміновых праектаў.

♦ Пазабанкаўскія структуры, здольныя прыцягнуць буйныя фінансавыя рэсурсы, адсутнічаюць.

♦ Канцэпцыям устойлівага пазабюджэтнага і пазабанкаўскага фінансавання праектаў па зніжэнні энергаспажывання ў жыллёвай сферы надаецца недастаткова ўвагі з боку ўраду, палітыкаў мясцовага, рэгіянальнага і нацыянальнага ўзроўняў.

Атрымліваецца замкнёнае кола: беларусы шмат спажываюць энергарэсурсаў і, адпаведна, фінансавых сродкаў, бо не маюць дастатковых сродкаў на санацыю жылога фонду. А недахоп сродкаў на санацыю звязаны з тым, што мы шмат выдаткоўваем на ацяпленне.

Для таго, каб рассячы гэты вузел, мы выступаем за правядзенне энергаэфектыўнай санацыі шматкватэрных жылых дамоў за кошт пазыковых сродкаў міжнародных фондаў і банкаў. Для акумулявання гэтых сродкаў неабходна стварыць мясцовы фонд - некамерцыйную арганізацыю, здольную працаваць з мінімальнай "маржой" у 1-2%. Тады і для санацыі дамоў рэсурсы дойдуць з прымальнай працэнтнай стаўкай у памеры 4-6% гадавых.

Пасля праведзенай санацыі знізіцца спажыванне энергарэсурсаў (адпаведна і аплата за энергарэсурсы), аднак жыхары працягваюць аплачваць па «жыроўках» на тым жа ўзроўні, што і да санацыі. Розніца ідзе на пагашэнне атрыманай на санацыю пазыкі і выплаты адсоткаў. Аднак людзі будуць жыць у значна больш камфортных умовах. Пасля пагашэння пазыкі, плацяжы для жыхароў за энергію памяншаюцца ў 3-5 разоў. **Такім чынам, беларусы будуць плаціць менш за лепшыя паслугі.**

## Думка народа

*Рэспандэнты адзначалі, што маюць вялікую прыхільнасць да энергаэканоміі. Бо гэта на карысць сямейнаму бюджэту.*

*Аднак магчымасці абмежаваныя, бо большасць пражывае ў старых жылых дамах. І выдаткі на палітыку энергазберажэння кладуцца пераважна менавіта на саміх жыхароў – пачынаючы ад замены вокнаў.*

*Між тым, многія гатовы пачаць з сябе – з укручвання ў кватэры энергазберагальных лямпачак і спажывання меншых аб’ёмаў вады.*

# Права людзей на зямлю і адраджэнне вёскі

Нягледзячы на высокі ўзровень датацый, які складае 60% пры сусветным узроўні ў 20-30% ад кошту валавой прадукцыі, доля сельскай гаспадаркі ў ВУП за папярэднія 5 гадоў знізілася ў Беларусі на 5,1%. **Пры гэтым, значная частка беларускай прадукцыі, нават з улікам вялікіх датацый, каштуе даражэй, чым сярэднееўрапейская.** Нашая вытворчасць канкурэнтаздольная на абмежаваных рынках, а яе экспарт у цэлым стратны.

Амаль 90% сельскагаспадарчых арганізацый працуюць у мінус, запазычанасць у сельскай гаспадарцы па стане на кастрычнік 2013 г. склала больш за 76 трлн. рублёў (каля 8 млрд. долараў). Гэта ў 1,7 раза перавышае грашовую выручку ад рэалізацыі, што робіць праблему вяртання даўгоў невырашальнай. Працягваецца адток высокакваліфікаваных кадраў з вёскі, перш за ўсё спецыялістаў, у выніку чаго шматлікія негатыўныя тэндэнцыі ў сельскай гаспадарцы могуць набыць незваротны характар.

Штогадовыя невытворчыя страты (мор жывёлы, нізкая якасць прадукцыі, перарасход кармоў, нізкая акупнасць матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў) складаюць фантастычную суму - да 5 млрд. долараў, што з'яўляецца найважнейшым доказам нізкай эфектыўнасці дзяржаўнай палітыкі ў сельскай гаспадарцы.

Прычынай стратнасці сельскай гаспадаркі з'яўляецца адсутнасць палітычнай волі ў кіраўніцтва краіны па пераўтварэнні сістэмы аграрных адносін. Стаўка на захаванне калгасна-

саўгаснай сістэмы, кан'юнктурныя дзеянні ўладных структур усіх узроўняў прывялі да дэградацыі ролі асобы ў сельскай гаспадарцы.

Асноўны тормаз для развіцця сельскай гаспадаркі - форма уласнасці: сёння ў краіне няма эфектыўнага ўласніка (95% зямлі належыць дзяржаве), які мог бы ў масавым парадку кіраваць галіной. Варта заўважыць, што **фермерскія гаспадаркі маюць рэнтабельнасць на 40% вышэйшую, чым дзяржаўныя сельскагаспадарчыя арганізацыі**.

Сёння прыватная ўласнасць у сельскай гаспадарцы Беларусі знаходзіцца ў зародкавым стане, хоць дзяржава як уласнік не можа забяспечыць дастатковую эфектыўнасць вытворчасці. Пры гэтым, фермерскія гаспадаркі не маюць роўнага з дзяржаўнымі сельскагаспадарчымі арганізацыямі доступу да рэсурсаў, свабоды выбару рынкаў. Яны застаюцца абмежаванымі ў фінансаванні вытворчай дзейнасці і не могуць канкураваць з дзяржаўнымі калгасамі і саўгасамі.

Прыватная ўласнасць выконвае індывідуальныя, сямейныя і грамадскія функцыі, таму павінна быць апірышчам грамадскага ладу. Такім чынам, каб вызваліць патэнцыял вёскі неабходна вярнуць зямлю людзям. Прыватная ўласнасць на зямлю выступае як крыніца абавязальніцтваў грамадзяніна перад сям'ёю і грамадствам. Дзеля гэтага прыватная ўласнасць на зямлю павінна знаходзіцца пад абаронаю дзяржавы.

Стан маралі і грамадства, які гістарычна склаўся ў Беларусі, непазбежна выкліча спробы злоўжывання прыватнай уласнасцю на зямлю. Неабмежаванае выкарыстанне зямлі павінна быць забаронена адпаведнымі законамі. **Базавым абмежаваннем на права валодання зямлёю ёсць прыналежнасць да нацыі і дзяржавы**, як тое, напрыклад, патрабуецца ад кандыдата ў прэзідэнты Беларусі.

## Думка народа

*Усе рэспандэнты выказваліся за тое, каб была ўвядзена прыватная уласнасць на зямлю. Аргументы супраць дадзенай пазіцыі не прыводзіліся. Пры гэтым удзельні размовы адзначалі, што мець права набываць ва ўласнасць зямлю мусяць толькі грамадзяне Беларусі.*

*Таксама выказваліся меркаванні, што пры адсутнасці магчымасці набываць зямлю ва ўласнасць, грамадзянін не можа адчуваць сябе абароненым, не можа адчуваць сябе гаспадаром зямлі.*

## Для нататак

# РУХ за свабоду

праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне












Рух «За Свабоду» ўзнік у 2006 годзе ў часе масавых пратэстаў супраць фальсіфікацый вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

Ад моманту стварэння яго ачольвае Аляксандр Мілінкевіч, кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006, кандыдат фізіка-матэматычных навук, лаўрэат прэміі Еўрапарламента «За свабоду думкі» імя Сахарава, былы намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму.

У 2008 годзе Рух быў зарэгістраваны як праваабаронча-асветніцкая грамадская арганізацыя.

**Мэты дзейнасці** – дэмакратызацыя краіны, умацаванне яе незалежнасці, развіццё грамадзянскай супольнасці і абарона правоў чалавека, набліжэнне Беларусі да Еўрасаюзу.

**Далучайцеся!**

**Тэл.:** 8-017-2808863

**Сайты:** pyx.by

**e-mail:** info@pyx.by

# НАРОДНАЯ ПРАГРАМА

www.prahrama.by



«Народная праграма» - гэта ініцыятыва па выпрацоўцы новага пазітыўнага бачання будучыні Беларусі з дапамогай экспертнага і шырокага грамадскага абмеркавання надзённых пытанняў развіцця краіны.

Экспертамі “Народнай праграмы” (а гэта каля паўсотні адмыслоўцаў - практыкаў і вучоных) прапануюцца тэзы і контртэзы па праблемах у розных сферах - у эканоміцы, палітыцы, сацыяльным забеспячэнні, медыцыне, сельскай гаспадарцы і нават побыце. Узнятыя тэмы затым абмяркоўваюцца ўсімі зацікаўленымі грамадзянамі анлайн на сайце www.prahrama.by. Апрача гэтага, дыскусіі адбываюцца падчас круглых сталоў і грамадскіх слуханняў.

У выніку нараджаюцца сумеснае бачанне змен і канцэпцыі вырашэння праблем – своеасаблівыя “дарожныя мапы” рэформаў, патрэбныя для лепшай Беларусі. Гэтыя тэзы будучых пераўтварэнняў даступныя для выкарыстання любым палітычным і грамадскім сілам. У часе выбарчай кампаніі, калі насельніцтва чакае ад палітыкаў пазітыўных альтэрнатыў, гэта асабліва актуальна.

**Сайт ініцыятывы: prahrama.by**

